


# Залеская талака

*Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра ГА "Сяльчанка" Смаргонского р-на / № 10 / красавік 2012*


## Агроэкотуризм на Сморгонщине

Агроэкотуризм в Беларуси - это новая развивающаяся отрасль, которая притягивает к себе большое внимание общественности. Активность людей в сельской местности и желание заниматься этим творческим делом, обеспечивающим дополнительный доход и новые рабочие места, меняет облик белоруской деревни, обеспечивает приток инвестиций и в результате становится локомотивом развития сельской территории.

На Сморгонщине работает 16 агроусадеб. Для координации действий и развития связей между прямыми и непрямыми участниками этого процесса создаются общественные советы. Работа по созданию общественного совета и районного кластера ведется и у нас. Активную помощь предложили участники проекта «Цитадель» из Минска - молодые люди, не безразличные к будущему родной Беларуси.





4 мая в Сморгонском райисполкоме состоялось очередное заседание, куда были приглашены хозяева агроусадеб, представители культуры, отдела спорта и туризма, школьных музеев, а также народные мастера, фермеры, предприниматели. Мероприятие возглавил председатель Сморгонского районного Совета депутатов Шиш Н.А. Разговор получился живой: в его результате заинтересованы многие приглашенные люди. Объединиться в кластер и работать на идею развития Сморгонщины готовы все. 15 мая состоится сессия районного Совета депутатов, на которой будет рассматриваться вопрос развития экотуризма на Сморгонщине и куда будут приглашены эксперты по устойчивому развитию территорий из Минска.

**Алла Шитикова, председатель первичной организации ОО «Сельчанка» Сморгонского района**

## Жанчыны Залесся развіваюць малы бізнэс у вёсцы

Конкурс праектаў па развіццю жаночага малога бізнэсу ў сельскай мясцовасці Праграмы Матра даў магчымасць праявіць дзелавую актыўнасць і жыхаркам нашага Залесся. Матэрыяльная падтрымка праграмы дазволіла набыць неабходнае абсталяванне і распачаць сваю справу Таццяне Кежун, Людміле Гружэўскай і Вераніцы Шчуроўскай. І хоць усё толькі распачынаецца, жанчыны ўжо могуць падзяліцца сваім цікавым бізнэс-досведам.

### Агератум і алісум Таццяны Кежун

Вырошчванне расады кветак і гародніны – справа для Таццяны Кежун не новая, але да гэтага часу не было патрэбных умоваў. Не было добрай цяпліцы. Цяпер яна ёсць, але пакуль без ацяплення. Пры наяўнасці “цёплай” цяпліцы расаду можна будзе пікіраваць ужо ў сакавіку і займацца ёй на месцы… Таццяна плануе вырошчваць петуніі, гартэнзіі, пеларгоніі. У гэтым годзе Кежуны толькі пачынаюць новую


Цяпліца Кежунаў у працэсе зборкі


Двор і цяпліца сям'і Кежун

справу і позна паставілі цяпліцу, але ўжо ўсё засеена. Таццяна кажа, што ёй з дзяцінства ўсе кветкі падабаюцца, а пакупнікам – тыя, што цвітуць ад вясны да восені і якія працей даглядаць: бархатцы, агератум, алісум, флоксы, хрызантэмы… Расадай яна заўжды дзялілася са школай, а цяпер будзе дзяліцца і з “Сяльчанкай”: кветнікі патрэбны і каля сельсавета, дзе знаходзіцца офіс Сельскага сацыяльна-дзелавога цэнтра, і як аздоба будучай дзіцячай пляцоўкі.

Маміна актыўнасць “заразіла” і Кацю Кежун… Студэнтка-другакурсніца хімфака БДУ зацікавілася вырабам сувеніраў і паштовак з тканіны ў тэхніцы квілінг. Справа вельмі працаёмкая і патрабуе шмат прыстасаванняў (швейная машынка, фігурныя нажніцы і г. д.), таму Каця таксама вырашыла паўдзельнічаць у конкурсе грантаў. Поспехаў!

## Сыры ад Гружэўскіх

Сваім сырам Людміла Гружэўская яшчэ не прыдумала назвы, але яны ўжо карыстаюцца шырокім попытам сярод кліентаў! Гэта галандскія цвёрдыя сыры, якія гаспадыня робіць сама на сваёй кухні. Сорак літраў малака, усемагчымыя фільтры, награваем да пэўнай тэмпературы, дадаём закваску - праз сорак хвілін малако скісае… Перамешваем, рэжам… Працэс пайшоў! Дзве гадзіны – і сыры гатовыя! Праз тыдзень-два (у залежнасці ад памеру) іх можна падаваць на стол. Гатовы сыр (чатыры галоўкі па адной кілі або дзве па дзве) вельмі хутка разыходзіцца сярод сяброў і знаёмых Людмілы: менавіта яны з'яўляюцца самымі надзейнымі кліентамі…

Найлепшая рэклама – якасць прадукту! Праўда, гаспадыня плануе зімой, як будзе больш часу, паэксперыментаваць з рэцэптурай і этыкеткамі.


Гаспадыня з амаль гатовым прадуктам


Салявая ванна

## Маргарыткі ад Маргарыты

Веранiка Шчуроўская разам са сваёй сям'ёй таксама вырашыла займацца вырошчваннем расады кветак. Паставілі цяпліцу і пачалі з простага: цыній, астраў, бархатцаў… Нават калі будуць праблемы з рэалізацыяй кветкавай прадукцыі, сцвярджае маладая бізнэс-вумэн, кветкі будуць грэць душу і радаваць мясцовых жыхароў. Важны сам працэс працы з зямлёй! Дарэчы, Веранiцы актыўна дапамагае корпацца ў градах нават малая дачка Маргарытка!

**Дар'я Ліс**


Цяпліца сям'і Шчуроўскіх


Расада

## Залессе ў інтэрнэце – www.talaka.elitno.net!




*«,,,28 красавіка 1802 года я з'ехаў з Пецярбургу з намерам назаўсёды пасяліцца ў вёсцы, недалёка ад Вільні,,,»*

*Так пісаў у сваіх мемуарах князь Міхал Клеафас Агінскі - дзяржаўны дзеяч, былы паўстанец, кампазітар-аматар, пра той час, калі ён прыехаў у Залессе.*

Актыўна працуе сайт Сельскага сацыяльна-дзелавога цэнтра в. Залессе Смаргонскага раёна.
Сайт www.talaka.elitno.net – гэта навіны з жыцця Залесся, актуальныя фотарэпартажы, анонсы цікавых падзей, расклад цягнікоў, нарысы па гісторыі ды краязнаўству, знаёмства з беларускай нацыянальнай кухняй і многае іншае.
Сайт www.talaka.elitno.net – прыемны дызайн і аператыўная праца вэб-майстра Міхаіла Лазара.
Сайт www.talaka.elitno.net запрашае жыхароў Залесся і землякоў з іншых куточкаў свету сябраваць і супрацоўнічаць!

Заснавальнік ГА "Сяльчанка" Смаргонскага р-на / адрас:в.Залессе, вул. Чыгуначная. Гал. рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375296553013 www.talaka.elitno.net
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна "Пры падтрымцы Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь".